**У нумары:** Аб пэўнай кар'еры ○ Гродзеншчына 1962 г. ○ Вершы і проза Алеся Свіська

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (303) | ГОД VII | 2 СНЕЖНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

АНДРЭЙ КОЛАС — намеснік рэдактара газеты «Гродзенская праўда».

## ГРОДЗЕНШЧЫНА 1962 г.

Перш чым пачаць расказ аб Гродзеншчыне, захацелася яшчэ раз убачыць яе на геаграфічнай карце. Вось яна, на самым захадзе неабсяжных прастораў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Граніца вобласці з Беластоцкім ваяводствам — гэта адначасова і дзяржаўная граніца СССР з брацкай Польшчай. На поўначы вобласць мяжуе з Савецкай Літвой, на поўдні — з Брэсцкай, на ўсходзе — з Мінскай абласцямі.

Хоць тэрыторыя нашай вобласці і невялікая, аднак спатрэбілася б нямала часу, каб паглядзець, чым багаты і слаўны наш край, чым шчаслівы і чым ганарыцца яго народ. Для хутчэйшага, што праўда, толькі павярхоўнага азнаямлення з прыродай ёсць добры спосаб — сесці на самалёт. Яны штодзень накіроўваюцца з Гродна ў розныя раёны вобласці, перасякаюць тэрыторыю на шляху ў Мінск ці Маскву. Паглядзіш уніз пад крыло паветранага карабля і скажаш: вось ён, партызанскі край, край блакітных азёр і ціхіх рэк, край лясоў і шырокіх ніў, край адноўленых гарадоў і вёсак.

Уецца блакітнай стужкай рака, усім рэкам свайго краю паўнаводны, амаль тысячакіламетровы бацька — Нёман, успеты паэтамі і народам у песнях і легендах. А да яго спяшаюцца са сваёй данінай, якой ніколі не будзе канца, яго прытокі — Уса, Лоша, Свіслач, Рось, Котра, Шчара, Ганча — Чорная і Белая, Зяльвянка... Нёман бярэ пачатак недалёка ад Мінска і праходзіць праз усю Гродзеншчыну. Таму і называюць вобласць яшчэ Прынёманнем, Прынёманскім краем.

Гродна. У які б квартал яго вы не зайшлі — усюды аднаўленне. Калісьці самай прыгожай лічылася вуліца імя польскай пісьменніцы, ураджэнкі тутэйшых мясцін, Элізы Ажэшка. Цяпер таго не скажаш. Таму што з'явіліся іншыя, значна прыгажэйшыя за яе — з чатырох - пяціпавярховымі будынкамі, шырокімі тратуарамі, абсаджаныя ліпамі і акацыямі, з паркамі і скверамі. Савецкая плошча, якая — скажам без пераўвелічэння — ляжала пасля вайны ў страшных разваліннах, стала адной з прыгажэйшых плошчаў сярод гарадоў рэспублікі.

(Працяг на стар. 4)

## Пленум ГП БГКТ

**9 снежня г.г. у Беластоку адбудзецца пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Пленум прысвечана асветным справам.**

## Якую аповесць хочуць чытаць у 1963 г. нашыя чытачы

У лістападзе г.г. мы правялі конкурс п.з. «Якую аповесць хочаце чытаць у 1963 г.?» Прыгнятаючая большасць адказаў пала на аповесці тэматычна звязаныя з апошняй сусветнай вайной. Шмат чытачоў прасіла, каб друкаваць нешта падобнае да «Барона фон Гольдрынга».

Рэдакцыя, прагнучы задаволіць патрабаванні нашых чытачоў, рыхтуе да друку сенсацыйную аповесць пра савецкіх разведчыкаў. Яна напэўна спадабаецца нашым чытачам.

Пачнём друкаваць яе ўжо ад першага навагодняга нумару.

Спісак чытачоў, якія вылясавалі ўзнагароды, будзе ў наступным нумары.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## РАЗМОВА Ў ЧАТЫРЫ ВОЧЫ



Спяшаю да Куратарыума Беластоцкай Школьнай Акругі. Застаю Яна Канапельку, візітатара школ з няпольскай мовай навучання. Момант вітаемся, наракаем на дажджлівую пагоду. Не скрываю фактычнай прычыны свайго нечаканага візіту.

— Кожная дыскусія актыву найчасцей канчаецца на ацэнках сітуацыі ў беларускім школьніцтве. Вось!

— Разумею.

— Прабачце за няскромнасць, але я таксама лічуся адным з такіх «вечных» дыскутантаў...

— Ага... Значыць, прапануеце размову.

— Не памыляецеся.

— Што ж, калі ласка.

— Дзякую. Пачну ад таго, што мяне найбольш непакоіць. Прачытаўшы артыкул сакратара ГП БГКТ, які быў змешчаны ў «Ніве» ад 4.XI. г.г. падумаў, што многа яшчэ засталося папрацаваць над пашырэннем навучання роднай мовы ў нашых вясковых школах.

Нат' вельмі многа! Асабліва, у Сакольскім і Дуброўскім паветах, а таксама ў Беластоцкім і Сямяціцкім...

— Ведаю, што хочаце сказаць. Паслухайце адну, на жаль, тыповую гісторыю, якая праліваe пэўнае святло на існуючую атмасферу сярод мясцовага насельніцтва тых аколіц. Настаўнік Іосіф С. купіў за свае грошы падручнік вучню. Хлопчык хацеў хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Не прайшло і пару дзён, калі прыбег ён чуць не плачучы. — Тата сварыўся, што ніколі не дазволіць мне вучыцца гэтай мовы, бо яна мужыцкая і нікому непатрэбная...

Адсюль вывад просты — Беларускаму Таварыству неабходна сканцэнтравацца ў сваёй прапагандовай дзейнасці перад усім, іменна, у гэтых раёнах; узмацніць лектарскую і імпрэзавую працу, звярнуць увагу на чытальніцтва літаратуры ў грамадскіх бібліятэках. Гаворачы так, зусім не намераны выбеліць асветныя ўлады. Прыкладна нядаўна ў Нетупе і Азяранах на Сакольшчыне без нашага ведама спынена навучанне беларускай мовы. Тлумачыліся недахопам кваліфікаваных педагагічных сіл.

— Хтосьці сказаў, што ад кадраў залежыць усё. І не без рацыі. Кажуць, на Беласточчыне і Гайнаўшчыне поўнасцю забяспечаны патрэбы беларускага школьніцтва. Няма чаго дзівавацъ: — беларускую філалогію завочнай беластоцкай настаўніцкай студыі закончыла ўжо з паўсотні настаўнікаў і

(Працяг на стар. 4)

## ПАДПІСКА «НІВЫ»

**Ужо пачалася падпіска «Нівы» на 1963 год. Як вядома, гадавая падпіска нашага тыднёвіка каштуе толькі 28 зл.80 гр. і прыймаюць яе ўсе паштовыя ўстановы і пісьманосцы. Раім зрабіць гадавую падпіску, яна найлепш гарантуе рэгулярную дастаўку газеты. Прыймае падпіску «Нівы» таксама «Рух». Падаем конта беластоцкага аддзела:**

**NBP Białystok I Oddział Miejski**
**Nr 102-7-161**
**PUPiK „Ruch"**

**Можна таксама выпісаць «Ніву» заграніцу. Гадавая падпіска «Нівы» з высылкай заграніцу каштуе 40 зл. і 40 гр. і прымае яе Бюра заграмічных выдавецтваў у Варшаве. Падаем конта:**

**na rachunek bież. w oddziale PKO Warszawa „pk" II**
**Nr 1-6-100024**
**Biuro Kolportażu Wyd. Zagranicznych „Ruch"**
**Warszawa**

**У адным і другім выпадку на адвароце бланкета трэба ўпісаць загаловак нашай газеты і дакладны адрас падпісчыка (або адрас таго, каму робіцца падпіска).**

БАЦЬКА — НЁМАН.



## ВОЧЫ ЧАРАДЗЕІ

НАСТАЎНІКАМ ПРЫСВЯЧАЮ

Дзіцячыя вочы — праменні
прабілі мне грудзі
глыбока.
Выгналі з сэрца і з вока
акрушыны крывога люстэрка.
На свет
паглядзеў я з надзеяй.
Усмешкай вітаў мяне ён.
Я ўбачыў зярно лепшых дзён
ў дзіцячых вачах чарадзеях.
Тыя ясныя дні
сэрцам бачу я!..
Ачаравалі мяне
вочы дзіцячыя.
Душа
поўная праменняў залатых.
Пакахала крынічныя вочы
і не змесціць каханняў другіх.
Хтось назваў мяне
душ інжынерам.
Гэта радасць дае маладую!
Расце шчасце
ў змаганні і веры,
а я яму душы рыхтую!
Закахаўся я
ў вачах чарадзеях.
І ў тым мая радасць
шчасце
і надзея.

# АЛЕСЬ СВІСЁК

## ЭКЗАМЕН

*Ядвізе Урбанскай*

Сцяна дыстанцыі.
Надзьмуты афіцыйны стол.
Абыякавасць,
стома
ў сумных вачах.
Афіцыйная ветлівасць
ў масцы ўсмешкі.
Як баран на зарэз падыпшоў.
Недарэчнасці плесці пачаў.
Ў галаве —
параліч мазгоў.
Пасля падбадзёрвання слухаў.
(Здавалась іроніяй, здзекам)...
Яшчэ сёння баліць аплявуха.
Але ў сэрцы —
і радасць і шчасце:
за сцяною
адкрыў чалавека.

*

Ў натоўпе
быццам твой
мне тварык мільгануў...
Неба крыкнула сонцам.
Жаўронак
вясну
стаў вызваняць,
душу заказытаў.
Абагрэў мяне
запах кветак і траў...
Я думаў —
май гарачы шутануў.
А гэта толькі
быццам твар твой мільгануў,
а гэта толькі
светлы аб табе ўспамін...
Я — як раней:
адзін, адзін...

*

Не, не кахай мяне,
валошкавокая.
Я ўжо, кажуць, стары,
раблюся п'яніцай.
Толькі не глядзі з пагардаю,
звысоку
пры спатканні
на вуліцы раніцай.
Ты ж не пыхлівая,
я ведаю!
Не дрэнная!
У дрэнных душ
няма валошкавых акон,
з якіх
чар нашых палёў
выглядае...
Усміхніся хоць разок
цішком.
Або хоць
добрым позіркам кінь на мяне,
як маці.
А я злаўлю твой чар
і панясу.
Нічога
ты з красы сваёй не страціш,
хоць я
весь дзень
буду насіць тваю красу.

*

Я шчаслівы!
Магу цалаваць сардэчна
губы — вішні,
вочы — краскі,
рукі — ліяны.
І верыць,
што так ужо вечна
будзеш кахаць
і будзеш каханым.
Хоць жыццё муціць нам
не адзін ужо цень,
так добра мне
з табою, Ніна!
Бо ты — як хлеб:
добра на кожны дзень.
Толькі з табою
думы — буры гінуць.

*

Толькі з табою
ў чоўне кахання
паплывём
сярэбраным небам.
Я зор залатых налаўлю
для цябе.
Прышпілю да валос.
А як месяц
іскрамі сыпне —
і іх нахватаю.
Табе на каралі.

*

Скрогат
непатрэбных слоў
спалохаў
песню кахання
і патушыў
у вачах
чарадзейскія агеньчыкі...
Словы ў каханні —
як грукат крэсла
на залі
ў часе канцэрту...

*

Праходзячы
згубіла ўсмешку
як вішня пялёстак
вясною.
Пакуль злавіў
знікла.
Растала
як сняжынка.




**Старонку падрыхтавала рэдкалегія ў складзе: Алесь Барскі, Яша Бурш (адказны), Віктар Швед і Янка Чыквін.**




Калі Яначку прыдушыла крадзеная ў панскім лесе хвойка і ён «аддаў душу богу», а той на другі год «паклікаў да сябе» і яго жонку, за Насцяй пачалі аглядацца аматары на яе гектары. Гэтыя гектары, будынкі, ды каровы былі тымі цудоўнымі акулярамі, праз якія не было відаць усіх бракаў Насцінага грэшнага цела і вельмі веруючай душы. За яе сталі амаль што біцца дзецюкі не толькі з Крывіч, але і з суседніх вёсак.

Пераможцам аказаўся Знакімаў Петрык, не толькі дзякуючы хараству, але і таму, што галаварэзу Петрыку небяспечна было ўваходзіць у дарогу.

І вось Насці і Петрыку праспявалі ў царкве «Ісаія лікуй», а ў хаце «Едуць да нас, едуць госці» і другія вясёлыя песні ды сталі яны разам жыць і працаваць на яначкавым хутары.

Прайшло шэсць гадоў. Насця за гэты час чатыры разы радзіла і выкарміла сваімі вялічэзнымі грудзьмі трое дзяцей. І вось Петрык пачаў заўважаць не толькі гэтыя грудзі. Ён прыкмеціў, што ў Насці скуласты твар, маленькія злыя вочкі і бульбяны нос з маленькімі дзірачкамі. — Як у свінні, цьфу, згінь, прападзі! — думаў Петрык. І дзе гэта ў мяне былі вочы? Божа, што за жывот! А якія ногі! Валкі з малатарні! Ды і ўся яна як малатарня. Увесь дзень у руху і весь дзень трашчыць, бурчыць, кляне як ведзьма. І адкуль гэта ў яе столькі сілы? На работу людзей наймае толькі ў гарачы час, а так сама таўчэцца і ўдзень і ўночы і яму не дае спакою. Ды і халера яе знае, калі яна спіць!

Вось, здаецца, толькі што засне Петрык, вярнуўшыся ад суседа, дзе заседзеўся за картамі, а тут Насця турзае за плячо і крычыць:

— Петрык, уставай! Сонца ўжо ўсходзіць.

Петрык не варушыцца, прытвараецца.

— Уставай абібок! Не ляжы, як карова, работы столькі! Чуеш, уставай!.. У-у-у! — Чаму ж я ўзяла сабе гэтага галадранца?! Чаму ж ты галавы сабе не скруціў, як за мной лётаў, або кастылёў не паламаў!.. Уставай!

Насця мацней турзае Петрыка, сцягвае дзяружку з-пад барады і пекліцца:

— Уставай, мядзведзь! Куды ж ты нацягваеш гэту дзяружку?! Каб праз твае рэбры козы сена цягалі! Каб два дні ўставаў і не мог устаць!.. — Насця расходзіцца ўсё мацней і ўсё новыя праклёны сыплюцца з яе горла. Часамі яна дабаўляе:

— Як не хочаш працаваць, то ідзі адсюль пад халеру! І так тут нічога твайго няма! Парабак з парабка! Дзесяць знойдзецца на тваё месца!

Сон Петрыку як рукой аднімала. Ён паглядзеў знізу на Насцю, на яе грудзі-вымя, на яе нос.

— Хто да цябе пойдзе, свіны лычык? Дзе ты знойдзеш другога такога дурня, як я?! На цябе раз паглядзець агідна, а не то, што мець цябе штодзень перад сабою. Адыдзі, варопаўка, бо!..

— Што «бо»?! Што «бо»?! Ты хам, ідыёт!.. І Насця хапае за мяшалку, ці драпцы, якія стаялі ля парога.

Гэтае «бо» і так было ў Петрыка так сабе, для фасону. Гэты завадыяка, якога на вечарынках унікалі самыя бойкія хлопцы з усіх вёсак, баяўся кінуцца на сваю жонку. Ён, праўда папрабаваў гэта зрабіць, калі яна абазвала яго першы раз «гальшом» і «хамам», але з гэтага здарэння асталася пячатка на яго лысеючым чэрапе. Бо Насця, калі раз'юшыцца, то толькі смерць яе стрымала б, не глядзіць ні бока ні вока.

Але горш усяго, што Насця выклікала ў Петрыка агіду як жанчына. А ён быў яшчэ мужчына хоць куды «самы цымэс» і шмат якія нават з маладых дзяўчат скалілі да яго зубы, абяцаючы, чорт ведае якія, райскія раскошы.

І вось паво..' нарадзілася ў Петрыка думка аб неабходнасці пазбыцца Насці. Так сабе пайсці ад яе ён не мог. Уласніцка - кулацкія інстынкты не пазвалялі яму адарвацца ад зямлі, ад багацця. Забіць Насцю Петрык быў таксама не дурны. Не гніць жа яму пасля ў турме. Агідную жонку трэба было паслаць да святога Пятра так, каб конь быў сыты і сена цэлае. Каб ніхто не мог прычапіцца.

Так паспеў геніяльны план. Петрык чакаў толькі моманту, каб прывясці яго ў чын.

У гэтым годзе Петрык пастанавіў вымалаціць частку жыта цэпам, ён намерваўся перакрыць хату. Дык вось, неяк у посце перад Калядамі, Петрык стаў выказваць вялікую працавітасць. Ён уставаў яшчэ да пастухоў і ў марознай ночы на яначкавым таку раздаваўся мерны стук цэпа. Часамі ён малаціў з вечара. Аднойчы ён загадаў жонцы, каб памагла яму. Насця, па прынцыпу, пакляла крыху, пабурчэла, але пашла з ім у гумно.

Было марозна і работа ішла шпарка. Яны моўчкі працавалі ўвесь вечар. Пад поўнач Петрык прабурчэў:

— Перавярні снапы... Я зараз... да лямпы газы прынясу.

Насця перавярнула снапы, узяла цэп, абаперлася на ім, чакаючы мужа.

Было так ціха ў гумне, што Насці стала страшна. (А злыдзень муж нешта забавіўся). Як жывы заварушыўся нейкі каласок на таку і ў лямпе завешанай над токам, захістаўся агеньчык. У страсе трэснула, а недзе ў куце нешта скрабанула.

Насця баялася духаў. І вось яе ўяўленне пачало падсоўваць розныя «істоты» з «таго свету». То ёй прыпомнілася, як чорт цягнуў п'янага Беняша ў балота, то як вадзіла Антона Лавачнікавага нейкая белая з'ява, калі ён позна ўночы шукаў сваёй кабылы. То прыпомнілася Насці апавяданне старой Церахчы, як ёй смерць паказалася ў акне...

Калі Насця хацела ўжо кінуць цэп і ляцець у хату, дзверы памалюсеньку адчыніліся і праз іх улезла на ток... сапраўдная смерць! У белі, з зубастым чэрапам замест твару і з касою на плячах.

«Смерць» павольным, але рашучым крокам ішла проста на Насцю.

Насця зсінела; вочы вылезлі на верх, паветра затрымалася ў горле, не даючы крыкнуць. Але сэрца не лопнула ад страху. Жанчына пачала падавацца задам ад «смерці», трымаючы перад сабой, як салдат вінтоўку «на караул», цэп. «Смерць» паступала нястрымана за ёю. Так яны прайшлі ўздоўж ток.

І вось бедная Насця ўткнулася плячыма ў другія, зачыненыя, дзверы. Адступаць няма куды! Яна дзіка запішчала (толькі цяпер нашоўся голас) і з страшэннай сілай, павялічанай жахам, ударыла цэпам некалькі разоў «смерці» па чэрапе. Чэрап адразу зляцеў, цэп апынуўся на нечым больш цвёрдым, што трэснула быццам той гарэх, на які садзілася сенкевічоўская Ягенка.

— Божа! — крыкнула петрыкавым голасам «смерць» і як сноп упала на снапы жыта.

Насця і цяпер нічога не зразумела. Яна ў дзікім страху як сарна пераскочыла касу, якая замінала на дарозе, і выскачыла на двор. З перапугу яна паімчалася не ў хату, але ў вёску, якую пачала будзіць крыкам заразанай курыцы.

Пакуль людзі спрасонку ўцямілі ў чым справа і накіраваліся на хутар, на тым месцы, дзе стаяла яначкава гумно, быў ужо адзін стоўп агню і дыму.

Можа Насця ўцякаючы, зачапіла лямпу і яна, ўпаўшы, запаліла салому на таку — невядома...

Выцягнуць Петрыка з гарэўшага гумна не ўдалося.

**АЛЕСЬ СВІСЁК**

# РАЗМОВА Ў ЧАТЫРЫ ВОЧЫ

(Працяг са стар. 1)

ўсе працуюць у гэтых двух павеціках. Бельскія і гайнаўскія беларускія ліцэі штогод даюць дзесяткі выпускнікоў, якія, зразумела, стараюцца знайсці працу паблізу бацькоў; ніхто з іх не рвецца ў Сакольскі ці Беластоцкі паветы. На дадатак усяго вышэй сказанага наглядаецца непрыемную з'яву пры арганізацыі штогадовых курсаў беларускай мовы для найслабейшых выкладчыкаў прадмета. З-пад Чыжоў, Ласінкі, Снежак ці Рыбалаў заўсёды нехта прыедзе. А з-пад Ялоўкі, Гарадка ці Крынак не прыязджаюць.

— Трагізуеце, дарагі. Аднак трэба прызнаць, што сапраўды павятовы аддзел у Саколцы не дбае пра кадры настаўнікаў беларускай мовы. Мінімальна выкарыстоўвае даступныя яму сродкі паляпшэння паўстаўшага цяжкага становішча, што не магло не аказаць уплыву на факт хуткага змяншэння школ з беларускай мовай як прадмет, ад 23 у 1957 г. да 12 цяпер. На гвалт патрэбен нарэшце падінспектар, які ведае беларускую мову, абавязкам якога было б пастаянна супрацоўнічаць з выкладчыкамі прадмета, на штодзень кантраляваць вынікі іх працы, даваць указанні і выпраўляць метадычна - выхаваўчыя хібы.

— Выходзіць, Сакольскі аддзел асветы трактуе павярхоўна справу навучання роднай мовы ў вясковых школах?

— Ці не за суровая ацэнка?! У мінулым годзе я і падінспектар Мазур ездзілі ў бельскі педагагічны ліцэй на рэкрутацыю выпускнікоў беларускіх класаў на працу ў сакольскія школы, каб падмацаваць навучанне прадмета роднай мовы. Ледзь на сілу зербавалі чатыры настаўніцы. Ды што з таго... Адна зараз жа пасля адмовілася, другая, мабыць, з тыдзень прасілася - плакала, каб не высылаць яе на Сакольшчыну, бо раздумалася.

— Выбачайце за ўмяшанне. Успомнілася мне чыясьці прапанова, каб увесці ў сакольскім ліцэі прадмет беларускай мовы, што дазволіла б у некаторай меры часткова вырашыць кадравыя перашкоды.

— Ініцыятыва вартая развагі. Сапраўды, вялікае заданне для мясцовай арганізацыі БГКТ. Кураторыум са свайго боку ахвотных вучняў звольніць ад абавязкаў вывучання адной з сучасных моваў. Каб была толькі група не меншая, чым 10 асоб, бо ў супрацiўным выпадку няма падстаў да аплаты выкладчыка. Калі ўжо згаварыліся наконт гэтага плана дык трэба падкрэсліць, што ўзніклі б у будучым магчымасці праводзіць набор на завочную беларускую філалогію, дзе няма ўступных экзаменаў, але патрабуецца агульная арыентацыя па беларускай літаратуры.

— Праўда. Зрэшты, не намерваюся быць злаславым, але наколькі вядома ў міхалоўскім ліцэі даўно выкладаецца для ахвотных беларуская мова, а з Беластоцкага павета за ўвесь час усяго адзін настаўнік паступіў на філалогію, хаця ўжо многія з іх здабылі сярэднія педагагічныя кваліфікацыі, без якіх няма падставы старацца аб прыём у настаўніцкую студыю.

— Бачыце, павятовы аддзел асветы не ўпаўнаважаны ўжываць якінебудзь прымус або агітацыю. Тут маем дачыненне зноў з надзвычай важным заданнем беларускаму актыву, які павінен пераканаць данага настаўніка аб неабходнасці павышання сваіх кваліфікацый па беларускай мове і літаратуры. Тым не менш навучанне беларускай мовы ў міхалоўскім ліцэі відочна палепшыла кадру выкладчыкаў прадмета на тэрыторыі павета, дзе, як вядома, не наглядаецца працэсу змяншэння ліку школ з роднай мовай.

— Беластоцкі аддзел асветы не ў стане выбіраць лепшых выкладчыкаў, бо такіх у павеце няма. Ды не магу згадзіцца з Вамі, што актыў можа значна павялічыць набор у настаўніцкую студыю. Усё ж такі яшчэ за мала ёсць тут настаўнікаў, якія ў сярэдняй школе знаёміліся з роднай мовай і літаратурай.

У выніку дагэтуляшняй нашай размовы, здаецца, даходзім да яснага і недвузначнага сцвярджэння: фактычна няма магчымасцей хутка палепшыць сітуацыю з навучаннем прадмета беларускай мовы на тэрыторыі Сакольскага і Беластоцкага паветаў, не гаворачы ўжо аб Дуброўшчыне. Галоўнай перашкодай з'яўляецца адсутнасць высока кваліфікаваных сіл, а перад усім, няма магчымасцей радыкальнага папаўнення кадраў. З ліцэяў з беларускай мовай навучання і педагагічнага ліцэя ў Бельску працуюць тут літаральна лічаныя асобы (3—5) і тыя выкарыстоўваюць кожную аказію, каб уцячы ў «свой» павет, бліжэй хаты. Не забароніце ім?

— Нікому нічога не можам забараняць у пошуках зручнейшай працы... Па-мойму, ваш песімізм не апраўданы. Шмат спадзяемся з ладжаных кваліфікацыйных курсаў па беларускай мове. Сёлета ў час зімовых канікул арганізуем чарговы такі курс і ўжо атрымалі фінансы на падобны летні курс у 1963 г. З кожнага павета прыме ў іх удзел па адной трэцяй настаўнікаў роднай мовы.

— Сумняваюся ў правільнасці раўнапраўнай трактоўкі пры рэкрутацыі Сакольскага і Беластоцкага паветаў. Адгэтуль патрэбна абавязаць да ўдзелу ў курсе не адну трэцюю, а прынамсі з палавіну нізкакваліфікаваных выкладчыкаў прадмета.

Не маем права адміністрацыйна абавязаць настаўнікаў да ўдзелу ў курсе. Можам толькі прапанаваць. Настаўнік павінен сам пачувацца да абавязку павышаць свае кваліфікацыі па беларускай літаратуры і мове...

— Іншая справа. Непакоіць мяне цішыня вакол пытання апрацоўкі новай праграмы для прадмета беларускай мовы ў сувязі з рэформай пачатковага навучання.

—Цяжка сказаць штонебудзь канкрэтнага.

— На заканчэнне выпадае запытаць Вас, як выглядае справа забеспячэння школ падручнікамі?

— Наогул патрэбныя падручнікі ёсць. Аднак

# Г Р О Д З Е Н

(Працяг са стар. 1)

Праз Гродна імкліва нясе свае воды гонар і краса яго — Нёман. Леваўзбярэжны бок горада ў недалёкім мінулым быў па сутнасці прыгарадам з маленькімі драўлянымі хаткамі. Сёння — гэта новы горад. Асабліва прыемна глядзець на Занёманне вечарам, калі ў вялікіх жыллёвых будынках, што суцэльнай сцяной стаяць над нёманскай кручай, загарацца агні, адбіваючыся ў люстранай гладзі шырокай ракі. Вуліца Міру, Гагарына, Цітова, скверы, паркі, школы, заводы, фабрыкі, бібліятэкі, кіно — усё тут новае, сучаснае. Сюды курсуюць адзін за другім сотні аўтобусаў, таксі. І ўсё мала. Толькі ў гэтым годзе працоўныя Гродна атрымаюць 1200 выгодных кватэр.

І так у кожным горадзе — у Лідзе, Ваўкавыску, Свіслачы, Смаргоні...

Прынёманне можа ганарыцца і сваёй прамысловасцю. Калі з Гродзеншчыны ідуць на ўсход грузавыя цягнікі, мы ведаем — яны павезлі ў глыбіню краіны сельскагаспадарчыя машыны, цэмент і іншыя будаўнічыя матэрыялы, машыны для ліцейных заводаў, мэблю, запчасткі для аўтамашын, скуры, сукно, шкляныя вырабы, электрапрыборы, веласіпеды, фанеру, кардон, цукар, папяросы і сігарэты, мясныя і малоч-



Будова азотнатукавага завод ў г. Гродна.



Уборка кукурузы ў калгасе «Гвардыя» Берастовіцкага раёна.

(Працяг са стар. 2)

адказваючы Генрыху, сам пытае Бертгольд, кіўнуўшы галавою на два чамаданы, што так і засталіся стаяць пасярод пакоя.

«Як я не здагадаўся іх схаваць»! вылаяў сябе Генрых.

— Так, майн фатэр, у мяне даўно ўжо ўсё напагатове, каб у першу-лепшую хвіліну выехаць у Швейцарыю...

— Уцякаць?

— Гэты выезд я не назваў бы ўцёкамі.

Бертгольд крыва ўсміхнуўся.

— Усе ўцякаюць! Усе! Як пацукі з судна, што патанае!

— Але судна сапраўды ідзе на дно, групенфюрэр, і трэба цяпер думаць аб уласным ратунку...

Бертгольд не адказаў. Ён сядзеў і кусаў губы.

— Я вельмі нездаволены табою, Генрых, нарэшце адазваўся ён. — А пэўных тваіх учынкаў проста не разумею. Я хацеў бы, каб ты вытлумачыў мне іх перш чым я скажу, чаго я сюды прыехаў.

— Я толькі гэтага і хачу, бо ўпэўнены, што Лемке добра размаляваў мяне. Я яму некалькі раз звярнуў увагу на яго непрабачальныя памылкі ў працы і ён не можа мне гэтага прабачыць.

— Мы пра Лемке пагаворым потым. А зараз пра цябе. Дзе твая перакладчыца?

«Вось жа Лемке паспеў паведаміць пра знікненне Лідзіі. Ясная рэч, круціцца нельга. Трэба прыймаць

281

бой. Аглушыць Бертгольда адкрытасцю...»

— Чаго ж ты маўчыш і не кажаш, што даў ёй магчымасць уцячы? Зноў нейкая любоўная гісторыя?

— Любоўнай гісторыі не было. А магчымасць уцячы я сапраўды даў.

Гэты адказ, як і разлічваў Генрых, збіў генерала з панталыку.

— Ты гаворыш мне пра гэта так, быццам паведамляеш звычайную рэч. І нават не намагаешся апраўдвацца.

— Я гавару з вамі шчыра, бо перада мною зараз сядзіць не групенфюрэр, а мой названы бацька і будучы цесць. Я спадзяюся, што з ім магу быць шчырым.

Бертгольд здзіўлена глянуў на Генрыха.

— Навошта ты гэта зрабіў?

— Дзяўчына не ў чым не вінавата. Я не хацеў, каб Лемке закатаваў яе ў гестапа, бо сам запрасіў яе ў перакладчыкі, хоць яна і адмаўлялася. Я даў ёй слова афіцэра, што гарантую яе бяспеку.

— А твой сябра, Маціні, дзе?

— У бальніцы партызанаў працуе лекарам.

— А твой другі прыяцель Лютц?

— Учора ўцёк у Швейцарыю.

— І ты абоім дапамагаў?

— Лютцу дапамог, мы дамовіліся з ім сустрэцца ў Швейцарыі, і я маю адносна яго пэўныя планы. А што да Маціні, то я нават не ведаў пра яго намеры.

— Ты ведаеш, што Лемке ставіць пытанне пра

282

твой арышт і допыт?

— Я мог гэтага чакаць, я вам ужо казаў, якія між намі склаліся адносіны. Але я заўсёды спадзяваўся, што без вашай санкцыі ён гэтага не адважыцца зрабіць.

— Ты лічыш, што я буду скрываць твае злачынствы?

— Не, я разлічваў на тое, што вы чалавек больш шырокага светапогляду, чым гэты Лемке, які далей свайго носа нічога не бачыць.

— Пакінь гэтага Лемке! Ён адказвае за свае ўчынкі, а ты за свае.

— Мы з вамі, майн фатэр, як і ўсе партнёры фатэрлянду, зараз павінны думаць не пра сённешні дзень, а пра дзень заўтрашні. Мы з вамі нарабілі надта многа злачынстваў у Еўропе, і хай хоць кропля дабра пераканае свет, што ў Нямеччыне ёсць парадачныя людзі...

Бертгольд са скрытым выглядам дзівіўся на свайго будучага зяця. З кожным словам Генрыха ў яго сэрцы накіпала ўсё большая лютасць. Рамантычны дурань, што сваёй дурасцю ледзь не загубіў усе яго планы! О, калі б не тыя два мільёны, што ляжаць у Швейцарскім банку, ён бы паказаў гэтай размазні!

— Калі ты збіраешся ўцякаць? — пахмурна спытаў Бертгольд.

— Сёння ноччу.

— Куды?

— Мы ж з вамі дамовіліся: у Швейцарыю, да Лор-

283

 

настаўнікі часта наракаюць, што нельга іх набыць у павятовых кнігарнях. Беларускія падручнікі не падлягаюць рэгламентацыі, тым не менш кнігарні не заказваюць вялікіх колькасцей, каб не залежваліся на складах памяншаючы грашовыя абароты. Таму проста прашу кіраўнікоў школ, каб складалі ў кнігарні фармальныя заказы на выданні. У такіх выпадках кнігарня заўсёды даставіць іх у вызначаным тэрміне, бо гэта ж і яе інтарэс. Раю прытым прасіць квіток на складзены заказ. Тады мы зможам з належным эфектам рэагаваць у выпадку інтэрвенцыі.

— Квіток — фармальнасць, якая дапаможа.

— Напэўна. Вось, амаль не забыў. Напішыце, рэдактар, што беластоцкі Клуб міжнароднай кніжкі і друку атрымаў мноства беларускай літаратуры. Хто з настаўнікаў будзе ў Беластоку, няхай зойдзе і закажа патрэбныя кніжкі для лектуры.

— Аказія!

Дыскутаваў

**САКРАТ ЯНОВІЧ**
фота: **Г. Рагазінскі**

**ПАКУЛЬ КРЫНКІ НАДУМАЮЦЦА — ВОЛЬКА ЗРОБІЦЬ.**

# НЕ МАРЫЦЕ ГОЛАДАМ!

Павялічваюцца ў нашых хлявах каровіныя сем'і. Пішучы гэта, задумваюся, калі нарэшце скончыцца пагром на авечкі, якіх усё менш ды менш. Няўжо іх коштам намагаемся красуль і цялушкі тлустазадыя пракарміць? Так здагадваюцца беластоцкія спецы па жывёлагадоўлі.

Узяўшы пад увагу першараднае значэнне сельскай гаспадаркі ў агульнай эканоміцы ваяводства, стараюцца яны, спецыялісты, з усіх сіл пераканаць гаспадара, што існуюць яшчэ надта шырокія магчымасці пашырэння кармавой базы, каб удоваль мець і малака, і аўчынак.

Амаль у тысячы вёсках наладжана размовы, гутаркі і сустрэчы наконт дабрадзействаў кукурузы. Яе з'яўленне ў жолабе выклікае ў нашых рагатых пачцівін нястрымны прыплыў сліны і апетычнае мыканне. Падгледзеў гэта ўжо не адзін, пабудаваўшы сіласную яму. Зрэшты, сілас належыць да ліку тых прысмакаў, які робіць асабліва карыснай арганізму не толькі буйную кукурузу, але і ўсякую іншую зяляніну — травы і лісце прапашных культур. Сіласу — так, бы кващаным агуркам ці капусце — не страшны марозныя мяцеліцы, час доўгі не сапсуе.

Як не дзіўна, але выразна таксама недаацэньваем вырошчванне зялёных кармоў пасля збору ўраджаяў. Разыходзіцца аб засяванне маладой вікі, сырадэлі, якія ўвосень дадуць дадатковы корм — смачны, малодзенькі — нашай збедаванай жывёле.

А перш за ўсё звяртаецца цяпер увагу на правільнае загаспадараванне ўтоптаных ў балота лугоў, што чарнеюць паміж лысымі палеткамі. Даўно названа іх грамадскімі пашамі ды зганяем у гэтыя калужыны ўвесь свой шумлівы статак. Ніхто і не падумае аб тым, каб купіны выраўнаць, травы добрай падсеяць, штучных угнаенняў пасыпаць.

Час падлячыць удзірванелую зямлю нічыю. Прыкладам, у Вольцы на Гайнаўшчыне пачухалі пецярнёю патыліцы над гэтаю справаю і ўжо разжыліся на два гектары сакавітай пашы. Багатыя гайнаўчане больш хочуць разбагацець, а згараваным Крынкам на Сакольшчыне, што на пясках сядзяць, і ў галаву не прыходзіць ідэя выкарабкацца з адвечнага голаду на раздольныя пашы. Ёсць жа ў іх далін купістых — пад Піражкамі, ля пагоркаў званых разбойнікавымі, ды ў нізіне прысад старога маёнтка. Толькі коні папутаныя па іх гопаюць і зубішчамі лакомымі дзярно крамсаюць. Не ляпей маюцца ад крынчан і вёскі астраўскія (Вострава Паўночнае, Паўднёвае, Новае), якіх дзеразінскія сенажаці ратуюць, а голых, як бубен, сваіх выганаў пад носам не бачаць, каб толк з імі ўканцы канцоў навесці.

Хтосьці скажа, што выкрываю незаўважаныя рэзервы. Няхай будзе і так.

**А. АНТАШЭВІЧ**

# Ш Ч Ы Н А 1962 г.

ныя прадукты і іншыя вырабы — у асноўным народнага спажывання. Многія цягнікі і судны перасякуць з гэтай прадукцыяй сухапутныя і марскія граніцы радзімы. Сярод упамянутых вырабаў нямала такіх, што пачалі выпускацца ў гады сямігодкі. Дзецішчам яе з'яўляюцца Шчучынскі завод «Аўтаправод», Гродзенская абутковая фабрыка, заводы «Аўтазапчастка», сантэхабсталявання.

А зараз недалёка ад абласнога цэнтра будуецца гігант хімічнай прамысловасці — азотнатукавы завод. Гэта ўдарная будоўля камсамольцаў і моладзі і вядзецца яна ўдарнымі тэмпамі.

Завод атрымае самае сучаснае айчыннае і імпартнае абсталяванне. Ён — галоўныя клопаты будаўнікоў, мантажнікаў і кіраўнікоў будаўнічых арганізацый. У гэтай сямігодцы завод дасць краіне сваю прадукцыю, якая будзе мець выключную ролю ў пад'ёме сельскай гаспадаркі вобласці і рэспублікі.

Усё вышэй узнімаюцца сцены карпусоў Слонімскага і Ваўкавыскага мясакамбінатаў. Многія прадпрыемствы вобласці рэканструююцца карэнным чынам.

Дзяржаўны план стаў законам для калектываў прамысловых прадпрыемстваў. І вось цяпер, калі пройдзена палавіна шляху сямігодкі, можна сказаць, што працоўныя фабрык і заводаў высока трымаюць свой працоўны гонар. Дзяржаўны план 3 год 8 месяцаў выкананы па валавой прадукцыі на 105 працэнтаў.

Зараз за кожныя два дні выпрацоўваецца больш, чым у 1958 годзе за тры дні. Вытворчасць працы ўзрасла на 32 працэнты — таксама вышэй накрэсленага плана.

Яшчэ больш значныя дасягненні асобных прадпрыемстваў. Так, напрыклад, Скідзельскі цукровы камбінат, працуючы на мясцовай сыравіне, Гродзенскі шклозавод, Ваўкавыскі цэментны ўжо дасягнулі ў вырабе прадукцыі кантрольных лічбаў канца сямігодкі; г. зн. 1965 года.

Роднай, кроўнай справай стала сямігодка для працоўных вёскі. Узяць новыя рубяжы ў пад'ёме ўраджайнасці палёў, развіцці жывёлагадоўлі і яго прадуктыўнасці, узняць яшчэ вышэй культуру і дабрабыт вёскі — у гэтым яны бачаць сваю галоўную задачу. Хоць калгасы і саўгасы на Гродзеншчыне параўнаўча маладыя, створаныя ў асноўным дзесяць - дванаццаць год таму назад, і такая задача зусім пад сілу. Бо калі да перастройкі сельскай гаспадаркі машына была рэдкай з'явай у вёсцы, дык цяпер на вёсцы ёсць каля 4 тысяч аўтамашын, 5622 трактары, 1000 розных камбайнаў, 190 льноўборачных машын, сотні бульбасаджалак, 4800 сеялак і шмат іншых. Тэхніка стала ўласнасцю сельгасарцеляў.

У калгасах і саўгасах ўзрасла жывёлагадоўля. Так, пагалоўе буйнай рагатай жывёлы за тры і восем месяцаў павялічылася больш як у два разы. Моцна ўзрасла вытворчасць малака, мяса і іншых прадуктаў.

За гады сямігодкі крок наперад зрабілі культура, ахова здароўя і народная асвета. Каб расказаць аб гэтых вялікіх пераменах, якія адбыліся на Гродзеншчыне, атрымаўся б не адзін такі артыкул. Выраслі дзесяткі і сотні палацаў, клубаў, кінатэатраў, бібліятэк, сярэдніх школ і школ - інтэрнатаў, навучальных устаноў, бальніц, паліклінік.

За гады сямігодкі намнога ўзраслі рады інтэлігенцыі. Гэта ўрачы, інжынеры, педагогі, культработнікі. І ўсе яны ў асноўным выпускнікі трох гродзенскіх інстытутаў, дзеці працоўных Прынёмання.

За гады сямігодкі над нашымі пpасторамі пралеглі высакавольтныя лініі электраперадач ад магутнай Бярозаўскай ДРЭС, што на Брэстчыне, прышоў прыродны газ з Украіны і ўжо загарэўся ў цэхах і кватэрах ваўкавыскіх цэментнікаў, навагрудскіх шкляроў. Рыхтуецца прыняць блакітны пломень абласны цэнтр і іншыя гарады і пасёлкі.

Прыгнечаная акраіна ва ўмовах старой буржуазна-памешчыцкай Польшчы, Гродзеншчына пераўтварылася за гады савецкай улады ў квітнеючы край. Мірныя маторы гудзяць на яе палях, рэках, у чыстым небе. Песні аб міры спявае яе працавіты народ. Мэта і клопаты ў нас адны — клопаты аб міры і дабрабыце Радзімы. Дасягнутае радуе, падбадзёрвае, але не супакойвае. Хочацца, як сказаў Н. С. Хрушчоў, сёння зрабіць больш, каб заўтра мець больш.

І так будзе. Бо яны крочаць наперад правільным курсам. Іх компас — новая Праграма КПСС.

**АНДРЭЙ КОЛАС**



**Шырокаэкранны кінатэатр у г. Гродна.**

хен.

— Чэкавая кніжка пры табе?

— Я яе выслаў на перахаванне ў Швейцарскі банк.

— А ты не баішся, што ёю можа скарыстацца хто іншы?

— О, не! Дык апроч чэка трэба ведаць і ўмоўныя прыкметы. Да таго ў банку ёсць адціскі пальцаў.

Генрых уважна глянуў не Бертгольда, правяраючы, якое ўражанне зробяць яго словы.

— Заўтра досвіткам мы з табой выедзем у Швейцарыю!

— Разам? Удваіх? — на твары Генрыха мільганула такая шчырая радасць, што ў Бертгольда адлягло ад сэрца.

— Дарога не зусім бяспечная, бо заўтра прадбачваецца капітуляцыя ўсяго Лігурыйскага фронта. Думаю, што з табою, на ўсялякі выпадак, трэба абмяняцца завяшчаннямі: ты мне дасі права карыстацца тваім бягучым рахункам у Швейцарскім банку, а я табе дам даручэнне на права распараджацца маёй спадчынай. Ты згодны?

— Як вы можаце пытаць пра гэта, майн фатэр! Вы ведаеце, што для мяне вашая воля закон.

— Добра хоць у гэтым ты апраўдаў мае надзеі, — сказаў Бертгольд.

— Вы мяне засмуцілі, майн фатэр! Няўжо тое, што я дапамог сімпатычным мне людзям... мае вялікае для вас значэнне?

— Мяне непакоіць, што ты сябруеш з падазронымі людзьмі. Гэта гаворыць, што твае патрыятычныя пачуцці...

— Вы памыляецеся, майн фатэр! — горача запярэчыў Генрых. — Я быў патрыётам сваёй Бацькаўшчыны і застануся ім да апошняга дыхання. Нават зараз, калі да заканчэння вайны засталіся дні, мо' і гадзіны, я, не вагаючыся, аддам сваё жыццё, калі буду ведаць, што гэта афяра пойдзе на карысць майго народа. Гэтыя словы я вам сказаў упершыню ў далёкай Беларусі, калі цёмнай ноччу прывялі мяне ў ваш кабінет. Гэтыя словы я паўтараю тут, у Італіі, напярэдадні заканчэння вайны.

Бертгольд не мог не адзначыць, з якім унутраным хваляваннем Генрых сказаў апошнія словы, і гэта ў пэўнай меры яго супакоіла.

— Ты ведаеш, чаго я прыбыў сюды? — спытаў ён пасля доўгай паўзы. — Не толькі таму, каб дапамагчы табе пазбегнуць палону...

— Я вам вельмі ўдзячны, майн фатэр!

— Я прыбыў сюды і затым, каб ні завод, што вырабляе радыёапаратуру для самалётаў-снарадаў, ні таямніца прадукцыі гэтай апаратуры не трапілі ў рукі нашых праціўнікаў. Ты ведаеш пра гэты завод?

— Так, Лера гаварыў мне пра гэта нешта такое...

— Ты хочаш сказаць: нябожчык Лера?

— Што?

— Пазвані да яго на кватэру. Магчыма, Кубіс ужо паспеў...

**(Працяг за тыдзень)**

284 285

# Каму блізкае і дарагое...

Вечар. На двары шамоча парадзелымі лістамі дрэў халодны вецер. Зрывае і кідае іх на зямлю.

Сяджу ў вясковай святліцы ў Старым Ляўкове, у плашчы і сутуліўшыся. Тут таксама холадна. Праз чорныя дзіркі вокан шурае той самы вецер, што шуміць і на двары. Няўтульна і сумна...

Кіраўнік мясцовай школы Васіль Цялушэцкі нечым вельмі заклапочаны, ён сёння мае выступаць на вечарыне, але мы разгаварыліся. Мяне цікавіла, што ён раскажа мне аб сваёй настаўніцкай працы сярод аднавяскоўцаў.

— Працую тут ужо трэці год, але ўжо вельмі палюбіў школу і зжыўся з насельніцтвам не толькі сваёй вёскі, — гаворыць кіраўнік, прагна зацягваючыся моцнай папяросай.

— Гэта няпраўда, што ў вёсцы няма сёння культуры, што гэта народ, які нічога не разумее і не ўмее ацаніць! — працягвае далей і на хвіліну аб нечым задумліваецца. — Дзіўнымі здаюцца словы сяброў - настаўнікаў, што ў вёсцы нібы «няма дзе падзецца», — прыгадвае педагог. — Вёска мае цікавую культуру. На прыкладзе сваёй вёскі заўважыў тое, чаго мо' не заўважаюць другія. Летнімі святочнымі вечарамі не раз пачуеш у нас радасныя і сумныя гукі песні, якія кранаюць за душу, а іх спяваюць дзяўчаты і хлопцы, якіх ніхто не вучыў.

У першыя гады маёй працы ў сваім асяроддзі мяне моцна хвалявала гэтае народнае самадзейнае майстэрства. І я падумаў дапамагчы моладзі. Я пачаў марыць і нават уяўляць сабе, як пачну працаваць з моладдзю, як пачну кіраваць ёю... І вось першы сход моладзі, да якога я так прыбіраўся. Калі сабралася моладзь, па-таварыску абмеркавалі першы крок нашай, можна назваць, мастацкай самадзейнасці. Распачалі ад вывучэння народных песень, ад танцаў. Ахвотнай моладзі сабралася шмат. Так пачалася наша супольная праца. Рэпетыцыі адбываліся даволі часта, а пераважна ў суботнія ці святочныя вечары, а потым некалькі разоў у тыдзень, а калі ўжо набліжаўся час нашага выступлення, то і часцей. Выступалі на ўрачыстасці ёлкі ў школе. Дзень гэты быў для нас самым вялікім і найбольш хвалю-

(Працяг на стар. 7)



 

# Трыбуна чытачоў

## Каму блізкае і дарагое...

(Працяг са стар. 5)

ючым днём. Адбывалася нашае першае выступленне. Усе моцна хваляваліся, але... усё прайшло добра. Вынікі нашай працы належна аценіла насельніцтва нашай вёскі і аколіцы. Гэта заахвоціла нас да далейшай працы. Міналі гады... І вось мы можам паспяхова ставіць беларускія п'есы, інтэрмедыі, выступаць з песнямі. На сваім ліку маем многа выступленняў у суседніх вёсках. Маем сваю святліцу, акардэон — узнагароду БГКТ з Беластока, касцюмы, а цяпер... у асенні час многа часу на працу над новым рэпертуарам, — расказваў кіраўнік ляўкоўскай школы. — Цяпер апрацоўваем беларускія танцы, некалькі новых песень, да таго п'есу. Вось так, коратка выглядае наша жыццё. Але колькі радасці прыносіць настаўніку гэтая праца можа ведаць толькі той, каму яна блізкая і дарагая.

**Янка ЦЯЛУШЭЦКІ**

## Супольная ўрачыстасць

10.XI.1962 г. у Гарнізонным Клубе Войска Польскага ў Варшаве сталічныя праўленні беларускага, літоўскага, рускага і украінскага таварыстваў наладзілі супольную ўрачыстасць у гонар 45 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

На гэтую ўрачыстасць прыбыла шмат членаў і сімпатыкаў паасобных таварыстваў з Варшавы, Лодзі, Вроцлава і іншых гарадоў.

Пасля часткі афіцыйнай, выступіў украінскі калектыў мастацкай самадзейнасці з Варшавы, якога выступленні прысутныя сустрэлі з вялікім энтузіязмам. Затым адбыліся танцы (на здымку), якія ў вясёлым настроі працягваліся праз усю ноч.

Тэкст і фота: **Юра**

## ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ

Колькі трэба часу, каб зрабіць 180 метраў маленькага фундаменту кругом школьнага пляцу і агарадзіць яго сеткаю? Многа не задумваючыся можна адказаць прыкладна так: для дзвюх асоб гэта пад сілу зрабіць за тыдзень часу. А для Прэзідыум ГРН у Галадах (Бельскі павет) неабходны час не менш як два гады. Прэзідыум ГРН пачаў агароджваць у Галадах школьны пляц у верасні 1961 года. Да верасня бягучага года зроблена палавіну работы. Няма ўпэўненасці, ці да верасня 1963 года будзе канчаткова агароджаны школьны пляц. Старшыня Прэзідыум ГРН Васіль Швед у размове з кіраўніком школы Валянцінай Сідарук заўсёды запэўняе, што незадоўга ўсе работы будуць закончаны. Але абяцання мала. Неабходна работа. Менш слоў, таварыш Швед, больш сапраўднай зацікаўленасці патрэбамі школы.

МХ

## Яшчэ раз у справе „Зоркі"

Нягледзячы на запэўненні дырэкцыі беластоцкай друкарні, здараюцца ўсё яшчэ выпадкі, што па яе віне некаторыя падпісчыкі не атрымліваюць «Зоркі».

Аб усіх такіх выпадках просім неадкладна паведамляць нас.

## Звыраднелыя кінамеханікі

Да нас у Альхоўку (Гайнаўскі павет) раз у месяц прыязджае кіно з Нараўкі. Фільм на вёсцы вядома — найбольшая атракцыя. Але вось у нас гледачоў штораз прыходзіць менш. А гэта менавіта таму, што ў нас звыраднелыя кінамеханікі. Кожны раз яны прыязджаюць «пад газам». А тады вядома, не фільм, а сварка. Бо кінамеханікі то не могуць запусціць матор, то чагосьці забудуцца прывезці. І так часта бывае, што фільм цягнецца да позняй ночы. А калі сяляне заявяць прэтэнзіі, дык... ужо лепей не ўспамінаць. Вось нядаўна па такім «уданым» сеансе прыязджаў міліцыянер (які жыве на кватэры ў аднаго з кінамеханікаў) і папярэдзіў жыхара Альхоўкі, Уладзіміра Вярбіцкага, што, калі яшчэ раз будзе перашкаджаць сеансу (той толькі сказаў, што можа ізноў будзем да першай) дык будзе пакараны калегіяй.

Варта, каб гэтымі кінамеханікамі пацікавілася Акруговае праўленне кіно ў Беластоку.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## Парады нашага праўніка

## Адказнасць дзяржавы за страты нанесеныя службовымі асобамі

Дзяржава абавязана пакрыць страты, якія наносяць грамадзянам працаўнікі яе адміністрацыйных органаў або кіраўніцтва прадпрыемстваў.

Гэта адказнасць агранічана, калі страта паўстала ў выніку пастановы або рашэння дзяржаўных органаў. Дзяржава адказвае толькі тады, калі пры выданні гэткай пастановы або рашэння яе працаўнікі дапусціліся ўчынку, які выклікае іх карную або дысцыплінарную адказнасць. Віна працаўніка мусіць быць сцверджана прыгаворам суда або рашэннем дысцыплінарнай улады.

У адменны спосаб урэгулявана справа адшкадавання ў выпадку пазбаўлення волі праз суд або пракурора.

Дзяржава адказвае за безасноўнае пазбаўленне волі толькі тады, калі хтосьці адбыў засуджаную яму кару, а пасля справа была адмоўлена, або ў выніку надзвычайнай рэвізіі абвінавачаны быў апраўданы або прыгавораны на меншую кару, чымсьці адбыў. Гэткія выпадкі здараюцца ў практыцы рэдка.

Часцей здараецца, што арыштаваны ў час следства сядзіць даўжэйшы час у турме, а пасля судовага разбору бывае апраўданы. У такім выпадку панесеныя грашовыя страты можна патрабаваць звярнуць толькі тады, калі арышт быў відочна беспадстаўны. Здараецца гэта даволі рэдка. У большасці выпадкаў арышт матываваны наяўнымі доказамі, калі не яўнымі ды ўскоснымі, і таму лічацца абгрунтаванымі, хоць бы суд прызнаў гэтыя доказы недастатковымі.

У суд можна выступіць з патрабаваннем звярнуць страты на працягу аднаго года ад моманту ўвядзення ў сілу рашэння, у якім сцверджана віна працаўніка, а пры беспадстаўным арыштаванні — ад выхаду з турмы.

## Культурна і карысна

7 лістапада ў школьнай зале адбылася акадэмія прысвечаная 45 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

На акадэміі выступалі школьныя мастакі пад кіраўніцтвам настаўнікаў. Першае сваё выступленне яны паказалі школьнікам а 15-ай гадзіне. Школьнікі з цікавасцю слухалі аб мінулым і хацелі быць у асобе сваіх сяброў са сцэны.

Другое выступленне, але ўпрыгожанае, школьныя мастакі паказалі моладзі, сваім бацькам, дзедам і бабкам а 17 гадзіне. На гэтае выступленне зложылася: прамова, песні, вершы і танец «Казак».

Малодшыя гледачы на гэта глядзелі з цікавасцю, а старэйшыя ўспаміналі прошлае. Калі акадэмія закончылася, усе прысутныя былі вельмі здаволены, што гэты вечар правялі культурна, і яшчэ ляпей пазналі гісторыю Вялікага Кастрычніка і праграму, якую ён запачаткаваў.

**Аляк Харкевіч**
Ляшукі

## „БЭТЭСЦЫ" ПАТРЭБНЫ ТЭХНІЧНЫЯ ПРАЦАЎНІКІ

Як нас паінфармаваў дырэктар «Бэтэскі», у сувязі з рэарганізацыяй прадпрыемства, гайнаўскаму аддзелу патрэбны тэхнічныя працаўнікі (тэхнік на драўляныя вырабы, тэхнік і кваліфікаваныя рабочыя да прадукцыі цыраты і ліналеум, а таксама адміністрацыйны кіраўнік). Пісьмовыя заяўкі з аўтабіяграфіяй трэба накіроўваць па адрасу:
ZPG „Betesco", Warszawa, ul. Grodzieńska, 43.

## Наш пісьманосец

У нашай вёсцы, Кабылянцы (Беластоцкі павет) пісьманосцам з'яўляецца Станіслаў Самоніс. Працуе ён ужо на гэтай пасадзе 7 год, і працуе вельмі добра. Для яго няма добрай і дрэннай пагоды, кожны дзень, летам і зімой, прыносіць нам пісьмы і газеты. У нашай вёсцы выпісваюць пераважна «Газету Беластоцкую», «Рольнік», а найбольш «Ніву». Яе чытае ўся вёска. Я, як і ўсе аднавяскоўцы, хочам падзякаваць за пасрэдніцтвам «Нівы» нашаму Стасеку за яго цяжкую, але карысную працу.

**Ян Амброжэй**
Кабылянка

ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ




**Дарагое Сэрцайка**

Я жыву на вёсцы, але працую на адным з бельскіх прадпрыемстваў. Люблю ездзіць на забавы ў суседнія вёскі, бо і прыямней патанцаваць з новымі, незнаёмымі дзяўчатамі, і навязаць новае знаёмства.

Як на кожнай вясковай забаве ў куце святліцы заўсёды многа жанчын і старэйшых. І вось нядаўна я пабываў на такой нядзельнай забаве ў суседняй вёсцы. Папрасіў да танца адну дзяўчыну — Олю (спачатку я не ведаў, як яна завецца). Зразумела, яна мне спадабалася. Нічога тады дзіўнага, што я ў танцы прыціскаў яе мацней да сябе. Ці ж можна аперціся чару танго і прыгожай незнаёмай дзяўчыны? І вось другія ўдзельнікі забавы, а асабліва прысутныя ў кутку замужнія жанчыны прынялі гэта як дзіва, шэпчучы ўголас, што я не маю добрага выхавання і таму падобнае.

Ці мелі рацыю?

**Валодзя**
з Бельшчыны

Валодзя! Калі мова ідзе аб танго, дык напэўна не мелі рацыі. Гэта не толькі танец, у якім танцуюць ногі. Танго дае задавальненне і прыемнасць, калі яго танцаваць правільна, г. зн. не вельмі далёка, але і не ў прыціску. Усім вядома, што занадта — то нядобра. А хачу табе сказаць, што цяпер іменна модна танцаваць бліжэй партнёр да партнёркі. І калі гэта не было занадта, дык не маеш чаго перамайцца, хоць разумею цябе, як ты чуўся пры незнаёмай, калі да цябе даходзілі непрыемныя словы аб тваіх паводзінах.

СЭРЦАЙКА

# КІНО

Праграма
на 3—9.XII.1962 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 4—6. „Bestia" (węgierski), 7—9.

**Кляшчэлі**
„Noc szpiegów" (franc.), 4—6. „Bestia" (węgierski), 7—9.

**Навасады**
„Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 8—9.

**Нараў**
„Zmartwychwstanie" IIs (radz.), 5—9.

**Нараўка**
„Garsza miłość" (węgierski); 5—9.

**Чаромуха**
„Trzecia licealna" (włoski), 4—6. „Jutro premiera" (polski); 7—9.

**Чыжы**
„Rzeczywistość" (polskii), 5—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Miasto bez wody" (radz.), 5—9.

**Бранск**
„Ruda Julka" (franc.), 4—6. „Poławiacze" gąbek" (radz.), 7—9.

**Гродзіск**
„Taka miłość" (czeski), 8—9.

**Орля**
„Herszt" (franc.), 5—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Koncert gwiazd" (radz.), 4—6. „Komedianty" (polski), 7—9.

**Міхалова**
„Champion" (USA), 4—6. „Jutro premiera" (polski), 7—9.

**Супрасль**
„Śladami Ikara" (radz.), 4—6. „Dom bez okien" (polski), 7—9.

**Чорна Беластоцкая**
„Atomowa kaczka" (angl.); 4—6. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 7—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„W krainie białej czapli" (węgierski), 4—6. „Awantura o Basię" (polski), 7—9.

**Мілейчыцы**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 4—6. „Ten który wrócił" (radz.), 7—9.

**Нурэц**
„Marynarzu strzeż się" (angl.), 4—6. „Rzeczywistość" (polski); 7—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Pragnienie" (rumuński), 4—6. „Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 7—9.

**Сухаволя**
„Uskrzydleni" (NRD), 4—6. „Żebro Adama" (USA), 7—9.

**Шудзялава**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 5—9.

**Янаў**
„Lekkoduch" (włoski), 4—6. „Ukryte skarby" (czeski), 7—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Życie przeszło obok" (radz.), 8—9.

**Новы Двор**
„100 kilometrów" (włoski); 8—9.

**Ружаны Сток**
„Historia żółtej ciżemki" (polski), 8—9.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Bltk F-3

